

Людміла Клімук → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Крыху і пра Амерыку → 12

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3338) Год LXV Беласток, 3 мая 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Бобра ў руках людзей

**Згарэла амаль шэсць тысяч гектараў лугоў і чароту найбольшага ў Польшчы Баброўскага нацыянальнага парку. Страшэнны пажар, які заняў 10 працэнтаў тэрыторыі ўсяго парку, быў тушаны пажарнікамі з усёй Польшчы. Хаця перыядычна на баброўскіх лугах здараюцца пажары, такога спусташальнага агню тут не помняць найстарэйшыя жыхары.**



У нядзелю 19 красавіка ў верхнім цячэнні Бобры ўспыхнуў пажар. Амаль напэўна гэта было наступствам нелегальнага выпальвання траў. Гэтая практыка, на жаль, яшчэ існуе ў падляшскіх вёсках, дзе часта ў такі спосаб наводзяць „веснавыя парадкі". Дырэктар Бабpоўскага нацыянальнага парку Андрэй Грыгарук абяцаў 10 000 злотых узнагароды таму, хто знойдзе падпальшчыка. Сухія лугі і чарот занялiся вокамгненна, што давяло да тыднёвай агульнапольскай тушыльнай акцыі. Каб зразумець маштаб ліха, можна дадаць, што ў ратавальнай акцыі прымалі ўдзел сотні прафесіяналаў і тысячы добраахвотнікаў.

— На дадзены момант у нас 37 часцей дзяржаўнай пажарнай службы і добраахвотных пажарных камандаў, у агульнай складанасці 186 ратавальнікаў, — сказаў у Ганёндзы ваяводскі падляшскі камендант Дзяржаўнай пажарнай службы Яраслаў Вэндт. — Дадаткова памагаюць 56 жаўнераў Войск тэрытарыяльнай абароны, пажарныя каманды з Варміі і Мазур, дзве пажарныя школы — з Познані і Кракава (каля 80 курсантаў), маем таксама чатыры пажарныя самалёты, два дадатковыя з Мельца, верталёт з Катавіц, а таксама два транспартныя верталёты для забеспячэння ратавальнікаў на месцы здарэння.

Гэтая вялікая дапамога прыйшла пасля некалькіх дзён. Першымі на месцы былі пажарнікі са Штабіна і навакольных гмін. Пажар пачаў распаўсюджвацца яшчэ 19 красавіка ўвечары ў Аўгустаўскім павеце. Дзясяткі атрадаў пажарных службаў з Манецкага, Граеўскага, Аўгустаўскага і Сакольскага паветаў былі накіраваны на месца акцыі. Пажарнікі апісвалі барацьбу са стыхіяй на сваіх фейсбук-старонках.

„20 kwietnia 2020 r. po godzinie 10:00 OSP Suchowola została zadysponowana do ogromnego pożaru na terenie Biebrzańskiego Parku Narodowego w rejonie Kopytkowa, Polkowa, Wrocenia, który przesuwał się w kierunku obszarów ochrony ścisłej Grząd i Czerwonego Bagna. Żywioł zaczął się rozprzestrzeniać już 19 kwietnia po godzinie 17:00.

Kilkadziesiąt zastępów strażaków z powiatów monieckiego, augustowskiego, sokólskiego i grajewskiego ofiarnie walczyło w trudnych warunkach dużego wiatru, w bardzo trudnym i niedostępnym terenie. Sytuacja była bardzo niebezpieczna, ugaszony miejscami ogień rozżarzał się ponownie.



Ваявода Багдан Пашкоўскі і камендант Дзяржаўнай пажарнай службы Яраслаў Вэндт

Oprócz jednostek straży na miejscu działały także Służby Biebrzańskiego Parku Narodowego, które dogaszały pogorzelisko z beczkowozów. Zaangażowano samoloty gaśnicze z Białegostoku i Olsztyna.

Straż Pożarna starała się docierać jak najbliżej płomieni, ale ogniem były objęte nieużytki, zarośla wierzbowe, turzycowiska i trzcinowiska, do których nie ma dróg dojazdowych, a do których trzeba dojść pieszo ze sprzętem i gasić tłumicami.

Objęte żywiołem zostały jedne z najcenniejszych fragmentów Biebrzańskiego Parku Narodowego, serce i sanktuarium dzikiej przyrody, siedliska wielu rzadkich zwierząt i roślin. Są to zarówno grunty skarbu Państwa, jak i prywatne. Dokładna powierzchnia będzie oszacowana na podstawie zdjęć satelitarnych, ale już Służby Parku szacują ją na ponad 1300 hektarów.

Nasza jednostka powróciła w środku nocy po kilkunastu godzinach prawdziwej walki. Ekipy ratowników z powiatów monieckiego i augustowskiego, a także służby BPN wciąż walczą w obronie przyrody, która jest trawiona przez żywioł, pożar którego dogaszanie wciąż trwa".

Таксама пажарнікі з Дрыгі, Шудзялава і Старой Каменнай дзяліліся на фейсбуку інфармацыямі пра выратавальную акцыю. Менавіта яны, добраахвотнікі з гэтых мясцовасцей, з'яўляюцца адначасова жыхарамі і карыстальнікамі Бабpоўскага парку, які спрадвеку вызначаў рытм іхняга жыцця.

„Tego dnia, wraz z jednostkami OSP Dryga i OSP Szudziałowo udaliśmy się do BPN na nocne wsparcie gaszenia pożaru parku. To był nasz drugi wyjazd do akcji w Dolinie Biebrzy. Swoje działania zakończyliśmy około godziny 6:00"

„Dziś 25.04.2020r. po godzinie 18 wyjechaliśmy do miejscowości Wroceń do miejsca koncentracji Sił i Środków przeznaczonych do gaszenia pożaru Biebrzańskiego Parku Narodowego.

W Karpowiczach dołączyły do nas jednostki OSP Karpowicze oraz OSP Kamienna Stara".

Агонь у значнай ступені пакрыў тарфянікі, дзе можа доўга тлець пад зямлёй і ўзрастаць з-за парываў ветру. У апошнія гады адзіным спосабам тушэння такіх пажараў былі моцныя ападкі. Таму не толькі зямля, але і людзі вельмі спадзяваліся на дождж, якога ў тым годзе амаль няма.

— Мы павінны выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі і сілы, каб кантраляваць сітуацыю, — сказаў на месцы пажару падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі. — Гэта цяжка, бо гэта забалочаныя месцы, таму складана выкарыстоўваць больш цяжкую тэхніку ў выратавальнай акцыі. Усё-такі будзем тушыць з паветра, каб кантраляваць агонь. Спадзяемся, што пры больш спрыяльных атмасферных умовах нам удасца кіраваць гэтай сітуацыяй.

Дождж не пайшоў, але дзякуючы праўна праведзенай акцыі пасля тыднёвай барацьбы, удалося спыніць і патушыць агонь. Усё-такі ўжо ад некалькіх гадоў наглядаецца паступовае асушванне балоцістай тэрыторыі Бабpоўскага парку. У сувязі з гэтым 26 красавіка ў Беластоку на Плошчы Касцюшкі прайшла прэс-канферэнцыя па праграме падтрымкі і рэканструкцыі Нацыянальнага парку ў даліне Бобры, зладжаная Грамадзянскай кааліцыяй. Пасол Сейма Роберт Тышкевіч падкрэсліваў, што агучыць звароты да прэм'ер-міністра і міністра аховы навакольнага асяроддзя аб прызначэнні спецыяльных сродкаў для праграмы падтрымкі і рэканструкцыі Нацыянальнага парку, а таксама на забеспячэнне гэтай тэрыторыі ў будучыні. Яны павінны ахопліваць усе сферы, неабходныя для аднаўлення біяразнастайнасці. На думку Роберта Тышкевіча, праграма павінна пачынацца з хуткага фінансавання грунтоўнага дакладу пра стан парку, на аснове якога будзе распрацавана стратэгія далейшых дзеянняў. На думку парламентарыя, урад павінен паспрыяць уладам Бабpоўскага нацыянальнага парку, выдзяляючы спецыяльныя сродкі на гэтыя мэты.

Бабpоўскі нацыянальны парк — плошчай каля 59 тысяч га — з'яўляецца найбуйнейшым польскім нацыянальным паркам. Некаторыя лічаць яго адным з найбольш цэнных прыродных месцаў у Еўропе, а нават свеце. У яго межах знаходзяцца каштоўныя балотныя ўчасткі. Гэта таксама прытулак для многіх рэдкіх відаў жывёл і птушак, але таксама зямля, якая аб'ядноўвала выдатных людзей. Пра гэта, між іншым, у кніжцы *Z biegiem Biebrzy. Przewodnik historyczno-etnograficzny* піша гісторык Гжэгаж Рыжэўскі: „Дзякуючы гэтаму (спісу людзей) вы зможаце прасачыць гісторыю надбабpоўскіх зямель праз канкрэтныя біяграфіі, лепш зразумець эпоху і акцёраў, якія тут выконвалі свае жыццёвыя ролі, а таксама ўбачыць сямейныя і сацыяльныя сувязі людзей, якія жылі ў тым самым часе". Гісторык апісвае, між іншым, Мікалая Радзівіла — каланізатара гэтай тэрыторыі, Петранелю і Анну з Радзівілаў, Ежы Яцковіча-Зелепуху — гродзенскага лесніка і адзінага з выдатнейшых ураднікаў каралевы Боны ці Пятра з Ганёндза — эколага і гуманіста, заснавальніка і лідара Братоў польскіх, вядомых таксама як арыяне.

Бобра нясе тое, што немагчыма апісаць ці ахапіць аб'ектывам камеры. Глыбіню, з якой чэрпалі ад стагоддзяў.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Свет у аблозе

Ці мог бы хто яшчэ год таму прадказаць, як будзе сябе паводзіць свет, калі акажацца ў аблозе?

А ніхто і не казаў, што будзе лёгка. Нават раней, калі не было яшчэ пандэміі і ніхто не мог сабе ўявіць, што яна будзе, далёка не кожны мог пахваліцца, што яму лёгка жывецца. Ну а зараз знайсці такіх людзей увогуле, мякка кажучы, цяжкавата і не толькі з-за каранціну. Нават калі ў Еўропе каранцін адменяць, пошукі такіх людзей будуць няпростымі. Гэта ўсё па Беларусі можна вызначыць. Каранціну тут няма, але і людзей, якім зараз лёгка, гэта не прыбавіла. Хутчэй наадварот.

Зрэшты, а калі было лёгка? Чаканне праблем стала для чалавецтва з'явай натуральнай. Але вось, што будзе так, як сталася зараз, ніхто не чакаў, і ніхто не казаў. Ну а зараз ужо і гавораць, і чакаюць чарговых праблем. А яны, аказваецца, зусім не за гарамі, а тыя, што ёсць, маўляў, гэта толькі пачатак.

Нават у самой Арганізацыі Аб'яднаных Нацый загаварылі пра хуткую магчымасць вялікага голаду. Праўда, гэта нібыта тычыцца пакуль што толькі бедных краін. Пакуль што! Ну а ў багатых краін свае праблемы. Там ежа хіба што будзе. Пакуль што! А вось ці будзе ў многіх жыхароў магчымасць яе набыць, гэта ўжо сумніўнае пытанне.

Беларускія сяляне ў большасці сваёй не сочаць за пасяджэннямі, выказваннямі і заявамі ААН. Не ўсе ведаюць іх графік ды і пра ААН ведаюць не ўсе. Але высновы зрабілі аналагічныя. Сталі заўважаць, што ўзровень вады ў студнях стаў рэзка паніжацца. Ды і зямелька пачала перасыхаць. Голад ні голад, а на звышураджай у такіх умовах разлічваць не прыходзіцца. Таму гэтым разам яны хіба што пагодзяцца з экспертамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Тым больш што ад гэтай згоды ці нязгоды ім не холадна, не спякотна. Іншая справа сваё начальства. Тут нічога не зробіш, трэба падпарадкоўвацца. А галоўная ўстаноўка з самых уплывовых праўладных вуснаў гэта хуткая і паспяховая пасяўная. Там, відаць, як і ў ААН, магчымасць голаду дапускаюць сур'ёзна. Ну а пакольні ў нас краіна не з багатых, то ў ААН, хіба, калі казалі пра голад у бедных краінах, пра нас таксама можа і намякалі. Зрэшты, цяжка сказаць. Часамі здаецца, што ў ААН пра такую краіну як адна з заснавальніц таго ААН Беларусь ведаюць не больш, чым беларускі селянін пра іх. Асабліва зараз, калі мы засталіся адзінай краінай у Еўропе з адчыненымі межамі. А патрапіць да нас усё адно нельга. Суседзі свае межы пазачынялі.

Таму калі ўвесь свет у аблозе, то і мы ў аблозе. Нарэшце мы разам з усім светам. Ці, хаця б, з Еўропай, бо ўвесь час ішлі сваім шляхам, унікальным як квадратнае кола, а тут раз і на табе. Ведай беларус, што ты еўрапеец і нікуды ад гэтага не дзенешся.

Ну а свет і сапраўды ў аблозе і канца гэтаму не бачна. Калі пандэмія пачыналася, то здавалася, усё гэтак жа хутка і скончыцца. Ці хаця б так, як было ў Кітаі. Пасля аказалася, што і ў Кітаі было не так, як падавалася напачатку тым Кітаем, ну і чарговы раз пераканаліся, што Кітай гэта не Еўропа. І Еўропа ўжо не Еўропа, але яшчэ і не Кітай.

А для пандэміі геаграфічная адрозненні і нават зачыненыя межы аказаліся недастатковай перашкодай. Яна дабралася і да Амерыкі, і да Афрыкі, і да тых бедных краін, пра якія казалі ў ААН, дзе ад голаду і так паміралі яшчэ да пандэміі. І ім там зараз невядома чаго больш баяцца. Хіба ўсяго. Зрэшты, як і ўсім астатнім.

А свет нарэшце ўбачыў, які ён маленькі і які бездапаможны. Ён цяпер увесь у аблозе. І ўсе разам, і кожны паасобку зараз змагаюцца з нябачным ворагам. Праўда, не забываючы змагацца паралельна і адзін з другім — за сферы ўплыву, за рынкі і нават за тэрыторыі. Я ўжо не кажу пра ідэалагічныя войны і палітычныя баталіі, асабліва ўнутрыпалітычныя. Праўду, хіба, кажуць знаўцы, якія выявілі, калі сцвярджаюць, што ўнутрывідавое змаганне — самае жорсткае. Да нас, людзей, напэўна, гэта таксама адносіцца. І гэтаму змаганню канца не відаць. Хоць усе ўжо і так у аблозе.

Нават гучыць неяк дзіўна. Свет у аблозе змагаецца не толькі з тым, ад чаго аблажыўся. Відаць без гэтага пакуль не атрымліваецца.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Граблямі, лапаткай і венікам

Што гэта парабілася ў гэтым свеце?! Калі б я ўвайшоў у банк некалькі тыдняў таму з маскай на твары, мяне непазбежна павалілі б на падлогу, скавалі б кайданкамі, як падазраванага ў разбоі. Сёння без маскі нават не адважуся зайсці ў прадуктовую краму. Так ці інакш, я быў сведкам таго, як натоўп раз'юшаных кліентаў ставіўся да няшчаснага, які са сваім адкрытым і добрым тварам проста спрабаваў набыць... набор цэлюлозных масак па цане 19,50. Яму не хапала 50 грошай і занадта нервова шукаў іх у кішэні. У рэшце рэшт яго абвінавацілі ў бандыцкім нападзе... на каранавіруса, і яго жорстка выгналі з крамы. Як не кіем яго, дык палкай. А калі не гэтым, то граблямі, лапаткай, венікам...

Любы спосаб барацьбы з каранавірусам добры, калі ён не дрэнны. Адны ізалююцца ад яго, іншыя проста яго вітаюць. Пакуль не вырабіцца эфектыўная вакцына, абодва спосабы рызыкоўныя. Улады Польшчы выбралі першы. І трэба прызнаць, што па палітычных, а не сацыяльных прычынах. Я пайду сюды з неабходным ментальным цэтлікам, што кіруючая партыя ў Польшчы не змагаецца з каранавірусам. А з чым, з кім, гэта пытанне сур'ёзнай, нацыянальнай дыскусіі. І гэта магчыма толькі да будучых выбараў. Парламенцкіх, не прэзідэнцкіх, бо калі іх праводзіць ПіС падчас чумы, яны, безумоўна, не заслугоўваюць таго, каб іх назвалі сур'ёзнай грамадзянскай дыскусіяй. Наадварот, беларусы выбралі апошні метад. У «доўгія выходныя» яны масава пакідалі свае дамы, каб адзначыць сваім грамадскім пачынам 75-гадовую гадавіну канца Другой сусветнай вайны. Ну, можа, не масава, а значыць, не ўсе страцілі здаровы розум. Статыстычна кажучы, толькі кожны чацвёрты беларус яго пазбаўлены. Паводле афіцыйных крыніц, у розных відах непрымусовай працы, але вымушаных аднак грамадскай адказнасцю, якую называюць вялікім нацыянальным актам альбо, карацей кажучы: суботнікам, у цэлай краіне бралі ўдзел 2,3 мільёна чалавек. Шмат хто з іх у той час рабіў групавыя фотаздымкі без маскі на твары, але з граблямі або лапаткай у руках. У тым ліку і прэзідэнт Лукашэнка з неразлучным сынам-дэльфінам. Яны, як і ўсе іншыя рупліўцы, прыбіралі вечны беларускі беспарадак, апрача пазіравання да фотаздымкаў, гэта значыць, яны граблі стомленую прыроду, перакопвалі з пустога ў парожняе, а венікамі падмяталі ўсё пад праславуты кілімок, які нельга забраць з вачэй, На жаль, у арыфметычнай масе колькасць грамадзян без сэнсу выклікае к'еркегораўскую асацыяцыю: альбо — альбо. Проста такое стаўленне — альбо вірус нас, альбо мы яго, таго віруса — не мае нічога з экзістэнцыяльнага вылічэння. Па крайняй меры, ён упісваецца ў паняцце лемінгаў, якія над цяжкасці жыцця выбіраюць падпарадкаванне імпульсу калектыўнага самагубства. Можна і так. А можна інакш.

У часы чумы чалавечыя інавацыі бязмежныя. Сучасны прыклад тут — прэзідэнт Лукашэнка, які рэкамендуе абвейвацца густым дымам з вогнішча дзеля ўзмацнення жыццёвай сілы, выпіць чарку гарэлкі ды закусіць яе сальцам. Трэба прызнаць, што гэта даволі прыемная прафілактыка. У любым выпадку, куды прыемнейшая чым выкарыстанне ў групе праверaных сябрoў лячэння, рэкамендаванага сярэднявечнымі медыкамі. Ну, яны сапраўды прызначалі сваім пацыентам конскія дозы пэўнай сумесі, якая, па сутнасці, складаецца ў асноўным з адходаў, атрыманых падчас рафінавання трысняговага цукру з даданнем, сярод іншага, соку з мяса гадзюкі, сухога парашку з жабы і хваста пацука ды іншых падобных інгрэдыентаў. Усяго іх ажно 60 і па строгаму рэцэпце. Рабілі прэпарат 40 дзён, а яго выспяванне да поўнай медыцынскай эфектыўнасці даходзіла на працягу 12 гадоў. Па сканчэнні гэтага часу ён набываў сілу, здольную супрацьстаяць яду кожнай чумы, і не толькі чумы. Гэта была панацэя ад усіх хвароб пры ўмове, што яе дазавалі два разы на дзень папіваючы вінoм ці півам. Дык вось жа алкаголь. Наколькі важны гэты след ад сярэднявечча да беларускага архімеда — Лукашэнкі. Я бачу цемру, цемру бачу... Сярэднявечча.

Амаль 10 тысяч афіцыйна пацверджана ў Беларусі выпадкаў заражэння і 67 смерцяў. Афіцыйна! Іх неафіцыйны лік падмялі суботнікавыя венікі. Лапаткі прыкляпалі. Грабелькі зраўнялі. І, калі ласка, нічога не відаць. І, нарэшце, ніхто іншы, акрамя Аляксандра Лукашэнкі, рашуча заўважыў, што тое, чаго не відаць, не існуе. Не бачым віруса. Дык ён ёсць, ці яго няма?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Каранавіруснае тэлебачанне

Спакойнымі не былі Велікодныя святы ў грамадскім сэнсе для нашай, беларускай нацыянальнай меншасці. А ўсё дзякуючы закалоту, які закруцў дырэктар Беластоцкага асяродка Польскага тэлебачання Яўген Шпакоўскі. Менавіта ў рамках змагання з каранавірусам вырашыў ён вывесці перадачу «Беларускі тыдзень» і іншыя праграмы нацыянальных меншасцей з арганізацыйна-вытворчай структуры свайго асяродка. На такую развязку не пагадзіўся шматгадовы выдавец гэтых праграм Мікола Ваўранюк, інфармуючы медыя і грамадства ў передвелікодную пятніцу. Пад ціскам медыя (асабліва вельмі моцна заангажаваўся тут Мацей Халадоўскі, былы ніўскі журналіст, а зараз супрацоўнік «Газеты выбарчай», які ў Вялікую суботу і святочны панядзелак праінфармаваў аб складзьшайся сітуацыі ўсю Польшчу) і палітыкаў сам дырэктар мусіў папрацаваць над нядзельнай велікоднай перадачай, пад якой у якасці выдаўца падпісалася Кацярына Паплаўская, журналістка па праваслаўных тэмах у беластоцкім тэлеэфіры. Узровень пабачанага і пачутага ў гэтым выданні найлепей пракаментаваць проста маўчаннем. У выніку закалоту і пратэстаў беларускіх арганізацый, медыя, палітыкаў, дырэктар Шпакоўскі пакінуў «Беларскі тыдзень» і Міколу Ваўранюка выдаўцом толькі гэтай праграмы. Аднак надалей хоча вывесці перадачы іншых нацыянальных меншасцей з беластоцкага тэлебачання. Мы, як беларусы, не пагаджаліся з гэтым у сваіх пісьмах і надалей лічым, што гэта дрэннае і нікому непатрэбнае рашэнне. Прапануем увазе нашых чытачоў дакументацыю гэтых падзей.

**Яўген ВАПА**

Białystok, 17.04.2020 r.

**Mikołaj Wawrzeniuk**
**wydawca „Tygodnia Białoruskiego”**
**„My Romowie”, „Tatarskich Wieści”**
**„Wiadomości Rosyjskich”**

**Sz. P. Katarzyna Kakowska-Maksimowicz**
**Przewodnicząca Rady Programowej**
**TVP Białystok**

**Szanowna Pani Przewodnicząca**,

jako wydawca programów mniejszościowych w TVP Białystok, który co roku przed Radą Programową składa sprawozdanie ze swojej działalności, muszę poinformować o sytuacji „Tygodnia Białoruskiego” .

Program przestał ukazywać się w wyniku rozporządzenia dyrektora Eugeniusza Szpakowskiego z dnia 16 marca. W dniu 7 kwietnia sekretarz programowy Ośrodka Grzegorz Kazberuk poinformował mnie telefonicznie, żebym przygotował program archiwalno-montażowy na niedzielę 19 kwietnia. Postępując zgodnie z wymogami pracy w warunkach nadzwyczajnych, przystąpiliśmy do montażu programu w dniu 14 kwietnia. Montaż telefonicznie przerwał dyrektor Eugeniusz Szpakowski, informując mnie, że program musi w całości powstać poza Ośrodkiem TVP w Białymstoku. Ponieważ takich decyzji nie można wprowadzić w czyn z dnia na dzień, a tym bardziej z godziny na godzinę, poprosiłem o możliwość dokończenia montażu i czas na zastanowienie się nad przyszłością programu. Nie dostałem takiej możliwości.

W zamian za to Dyrektor zaproponował mi umowę, na mocy której wyprowadziłbym „Tydzień Białoruski” poza Telewizję Polską. „Ten program od samego początku był i jest integralną częścią Ośrodka TVP w Białymstoku. Ma swoich wiernych widzów i wypełnia w najlepszy z możliwych sposobów misję publiczną TVP, ponieważ zapewnia obywatelom polskim narodowości białoruskiej informacje o ich życiu i w ich języku. Za ten program ośrodek otrzymał pierwszą w swojej historii nagrodę na festiwalu „U siebie” w Krakowie/Przemyślu. Do jego jakości nie miała zastrzeżeń Rada Programowa TVP Białystok”

чытайце ☞ 8

Настаўнікі роднай мовы

# Бацькі ахвотна пасылалі сваіх дзетак *«na białoruski do pani od polskiego»*. Я вельмі ўдзячна ім за гэта.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Проста, нечакана. Калі пад канец 1990-х гадоў з'явілася магчымасць навучаць беларускай мове ў школе, наш тадышні войт, пан Станіслаў Федаровіч, добры і разумны чалавек, рашыў, што будзе навучанне ў Шудзялаўскай гміне. Але ж не было кадраў. Сяброўка, пані Аня Сятэйка ведала беларускую літаратурную мову, а я — мясцовую гаворку. Мы дамовіліся на супрацоўніцтва і неяк спраўляліся.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Я вельмі коратка звязана з асяроддзем, але ўсіх настаўнікаў, якіх я пазнала, лічу героямі, *omnibusami*, вельмі добрымі людзьмі. Яны заўсёды дапамагалі добрай радай і служылі дапамогай. Яны — мае ідэалы.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Добрыя сяброўкі гэта Таня Андрацкая з Беларусі, якая жыве ў Саколцы і працуе ў Бабіках і Шудзялаве. Гэта Аліна Ваўранюк з беластоцкай «чацвёркі» і метадыст Іаланта Грыгарук. Я была зусім «зялёнай», а яны мяне ўважна слухалі, усё талкавалі і падалі дапаможную руку.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Кожныя дзверы, у якія я дабівалася, адчыняліся. Гэта была «Ніва», АБ-БА, БГКТ і Гмінная ўправа ў Шудзялаве.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У час маёй працы з дзеткамі мы знаёміліся з гісторыяй нашай Малой Айчыны. Мы пісалі працы па-польску і па-беларуску на конкурс «Наша гняздо» і ў гмінную газету. Развучвалі калядныя і велікодныя песні, гаварылі пра рэлігійныя і свецкія звычаі. Стараліся пазнаць усё, што было калісь, а цяпер адмірае.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— «Пазнай Беларусь», «Роднае слова», «Беларуская песня» і «Абрады на сцэне». Дзеткі ахвотна рыхтаваліся, вельмі перажывалі паездкі, а як здарылася ўзнагарода, то проста былі шчаслівыя.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Дапамагалі бацькі і гмінныя ўлады, вазілі на конкурсы ў Бельск ці Беласток, фундавалі падарункі.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— У Шудзялаўскай школе сітуацыя спецыфічная, тут большасць навучэнцаў — католікі. Але бацькі ахвотна пасылалі сваіх дзетак *«na białoruski do pani od polskiego»*. Я вельмі ўдзячна ім за гэта.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Я працавала настаўніцай беларускай мовы з групай дзяцей, якія прыходзілі на г.зв. рэгіянальны гуртok. А тут кольказь гадзін была розная.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Пра лаўрэатаў я чытаю ў «Ніве» і дару ўсмешку для ўсіх: дзетак, настаўнікаў, бацькоў.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Усё мяняецца — свет і людзі, а час падкідае навінкі. Таксама падручнікі патрабуюць змен, хаця ў кожным шмат універсальнага, звышчасовага.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Новы падручнік Аліны Ваўранюк для меншых дзяцей, падручнікі для гімназіі і сярэдніх школ пад рэдакцыяй Анны Радзюкевіч.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Ніўскія Міра Лукша, Гандзя Кандрацюк і кузаўскі карэспандэнт Валодзя Сідарук.

Матушка Людміла Клімук з бацюшкам Аляксандрам і ўнукам Філіпам



**Людміла КЛІМУК** (зараз пенсіянерка), закончыла Пачатковую школу ў Каралёвым Мосце, II Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку і Факультэт паланістыкі на філіяле Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. У 1979-1982 гадах працавала ў ПШ № 3 у Саколцы, пасля да 1995 года была дырэктарам ПШ у Паўночным Востраве, далей навучала польскай і беларускай мовам у Шудзялаве (да 2008 года). Жыве на плябаніі на хутары паміж Паўночным і Паўднёвым Вастравамі з мужам, бацюшкам Аляксандрам. Яна псаломшчыца ў сваёй царкве. У сям'і дзве дачкі — Наталля і Магдаліна, ад якіх маюць чатырох унукаў: Філіпа, Грышку, Петруся і Мішку.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна больш спяваю — велікодныя, царкоўныя напевы і канапелькі па-беларуску. Дастала некалькі малітоўнікаў на беларускай мове і іх чытаю.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— У нашай хаце заўсёды ёсць «Ніва», «Czasopis» і „Przegląd Prawosławny" з беларускай старонкай.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе мерапрыемствы, дзе чуеш роднае слова, музыку і купіш добрую кніжку.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Ой, як калісь мы размаўлялі! А цяпер стараюся хоць з унукамі пагутарыць па-свойму, паназываць тое і сёе, нешта прачытаць, расказаць або песеньку заспяваць.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Можа штось і ліхога здарылася, але помніцца адно дабро.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Сённяшні час, час пандэміі. А ўжо здаўна — пустыя вёскі і закрытыя школы з-за недахопу дзяцей.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Ёсць такія, што пайшлі ў шырокі-далёкі свет і занялі высокія крэслы. Яны ўсе ды іншыя памятаюць, пазнаюць і паздраўляюць „Panią Ludmiłę".

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Штосьці калісьці «капнула».

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Найбліжэйшая радня, парафіяне і ўсе людзі, якіх я сустракаю.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Памятаю, як вярнулася ў школу са шпіталя. А мае дзеткі зрабілі праз цэлы калідор «шпалер» і білі брава.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Знак Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Трэба ведаць сваё, шанаваць і перадаваць іншым. Жыве Беларусь!

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Шахматным канём

Упалі мне акуляры, не ўпершыню. Дагэтуль усё абыходзілася беспраблемна, акуляры не ламаліся і можна было імі бесперапынна карыстацца. А вось цяпер здарылася навінка — выпала шкельца. Што рабіць? Трэба ў аптычную майстэрню. Бо і рэцэпт на новыя акуляры таксама ляжыць у мяне мо з тры-чатыры гады, але ўсё неяк хапала ленасці той рэцэпт не запускаць у ход. А і шкельцы ў старых акулярах, здалося мне, крыху прытухлі і варта было б іх пачысціць у спецыяліста.

Ну то пашагаў я са сваёй акраіны горада ў цэнтр, на вуліцу Ліповую, дзе майстэрня, якою я дагэтуль сімпатычна карыстаўся. Злез з аўтобуса на Легіяновай мяркуючы прайсці побач парку ў напрамку Лялечнага тэатра, да вуліцы Каліноўскага, а адтуль спусціцца на Ліповую. Але парк і праходы загароджаны; пашкадаваў я, што не злез з аўтобуса раней, каб прайсці пасажам каля Оперы... Абышоў я парк каля арліста-богаайчыннага помніка — такая разнавіднасць шпацыру...

На дзвярах аптычнай майстэрні застаў я вывеску, што ўстанова не працуе да адмены. Ну, пандэмія, трэба абмежаваць усялякія міжчалавечыя блізкія кантакты, каб вірусам было далёка да чарговых чалавечых трафеяў. Яны ж толькі чакаюць, каб ускочыць на пашкоджаныя акуляры і такім зайцам перабрацца да іх носьбіта — каб стаў і іх носьбітам. Што ж, цалаваць клямку цяпер небяспечна, таму павесіў я толькі нос над тратуарам і падаўся ў напрамку Лялечнага тэатра і Оперы каб прайсці пасажам побач іх да вуліцы прэзідэнта Качароўскага. Але і пасаж загароджаны...

Быццам пасажы гарадзіць не загадвалася, але ж пры тым акультураваючым пасажы стаяць дзве лавачкі, а лавачкамі карыстацца забаронена. Ну то заміж зацягнуць тыя лавачкі забаранняльнай стужкай, руплівыя беластоцкія загадчыкі гарадской прасторы загарадзілі папросту цэлы пасаж. Каб з вуліцы Каліноўскага да вуліцы Качароўскага было пешаходам не бліжэй чым вірусам...

Зноў зрабіў я кругаля ў напрамку вуліцы Качароўскага. Да яе апошнімі гадамі дабавілі прадаўжэнне вуліцы Кіеўскай, якое назвалі вуліцай святой Анны. Значыць вуліцай Божай Бабулі; але не гэта тут істотнае. Істотны тут пешаходны пераход гэтай вуліцы — яго трэба пераходзіць ходам шахматнага каня. Бываў я ў розных мясцінах, але такое новаўвядзенне ўпершыню сустрэў у сваім Беластоку — нашы загадчыкі гарадской прасторы не спяць, мазоліста працуюць, каб кінуць народу пад ногі нейкую калоду. Ужо даволі слаўнае скрыжаванне вуліцы Кавалерыйскай з Веснавой, дзе зроблена шмат, каб тузануць нервы аўтавадзіцелям. Ну, Беласток жа таксама мусіць чымсьці зацікавіць глабальны народ, каб і мы не асталіся ў цяньку Крывой вежы ў Пізе.

Дома прыгляну́ўся я сваім акулярам. Ад шматразовых упадкаў трэснула ў іх абрамленне аднаго са шкельцаў і тое шкельца пакарысталася нагодай каб вырвацца на свабоду; удалося без ніякай траўмы. Абрамленне таксама не надта рассыпалася, таму ўзяў я клей, склеіў абрамленне, уваткнуў у яго шкельца... І зноў магу чытаць і пісаць. А з вірусам трэба часам пазмагацца самастойна, падхалімнічаць яму, пахадзіць каля яго не простымі пасажамі, а парупліўцца то пешымі кругалямі, то кавалькадамі шахматнага каня...

(ав)






# На Бельшчыне каранавірус стаў хутка распаўсюджвацца

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Тое, што спачатку каранавірус у Бельскім павеце стаў намнога хутчэй распаўсюджвацца, чым на іншых тэрыторыях Беласточчыны, дзе кампактна пражываюць беларусы не абазначае, што такія тэндэнцыі будуць утрымлівацца надалей. У Сямятыцкім, Гайнаўскім і Беластоцкім паветах таксама пацверджаны захворванні, выкліканы каранавірусам, а па-за Бельскім паветам найбольш такіх захворванняў фіксуецца ў Беластоку. Аднак у сталіцы нашага ваяводства жыве прыблізна ў дзесяць разоў больш жыхароў, чым у Бельску. Напярэдадні Вялікадня паведамлялася аб шматлікіх у параўнанні да іншых паветаў Падляшша чарговых выпадках захворванняў жыхароў Бельскага павета, у якіх пацверджана была наяўнасць каранавіруса. Аднак намаганні Павятовай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі і Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Бельску-Падляшскім, а таксама іншых службаў і дысцыплінаваны падыход да змагання з пандэміяй каранавіруса многіх жыхароў Бельшчыны пачалі даваць станоўчыя рэзультаты і ў Бельскім павеце стаў прытарможваць тэмп новых інфекцый. Ізаляцыя, урадавыя забароны і патрабаванні спрычыніліся, што каранавірус стаў распаўсюджвацца па ўсёй Польшчы намнога вальней, чым у краінах Заходняй Еўропы.

Працаўнікі бельскага шпіталя, устаноў, суполак, прадстаўнікі іншых прафесій, пенсіянеры і іх сямейнікі гэта асобы, у якіх пацверджана была тэстамі наяўнасць каранавіруса. У час пісання гэтага артыкула, у канцы першага тыдня Вялікадня, аказалася, што больш чым кожны трэці жыхар Падляшскага ваяводства, у якога было пацверджана тэстам заражэнне каранавірусам, жыў у Бельскім павеце, дзе было зарэгістраваных каля 130 выпадкаў заражэння гэтым вірусам. Складана было працаўнікам Павятовай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі ў Бельску-Падляшскім выявіць, ад якіх асоб пачалося распаўсюджанне каранавіруса ў Бельскім павеце. Заражэнне каранавірусам магло прыйсці на Бельшчыну ад асоб, якія хварэлі, не ведаючы аб заражэнні, у якіх вынікам наяўнасці каранавіруса мог быць толькі большы насмарк. Аднак, на жаль, частка заражаных каранавірусам хварэюць вельмі цяжка. Трэба іх падключаць да рэспіратараў і карыстацца іншай апаратурай для ратавання жыцця. Ва ўсёй Польшчы на 11 тысяч інфікаваных каранавірусам асоб памерла амаль 500 чалавек, а на такую колькасць заражаных вірусам грыпу памірае ў сярэднім адна асоба. Частка людзей заразілася нядаўна і хвароба ў іх толькі стала разгортвацца. З ліку 11 тысяч заражаных каранавірусам выздаравела покі каля дзвюх тысяч чалавек. У Бельскім павеце з ліку заражаных прыблізна чвэрць выздаравела да часу пісання гэтага артыкула, што было пацверджана тэстамі. Мая суразмоўца з Бельска-Падляшскага, да якой першай я патэлефанаваў, каб даведацца пра настрой у горадзе, сама аказалася інфікаванай.

— Я сама заражана каранавірусам. Заражэнне адбылося вельмі нечакана. На тыдні перад каталіцкім Вялікаднем пайшла я ў сваю амбулаторыю, каб узялі ад мяне кроў для праверкі стану майго здароўя. Абрадавалася я, што не было чаргі людзей, паколькі магла б ад іх заразіцца. Аднак на другі дзень каталіцкага Вялікадня патэлефанавалі мяне з санэпідэмстанцыі і паінфармавалі, што медсястра, якая брала ў мяне кроў, аказалася заражанай каранавірусам. Таму будуць тэставаць мяне на наяўнасць віруса, а мяне чакае каранцін. Я была пераканана, што праверка гэта толькі фармальнасць. Я не заўважыла ў сябе сімптомаў, якія маглі б сведчыць аб заражэнні каранавірусам і лічыла сябе здаровай. Аднак ужо на другі дзень пасля праверкі паінфармавалі мяне, што я заражаная і гэта было для мяне вялікай нечаканасцю. У каранцін трапілі мой муж і сям'я сына, паколькі ў мяне быў кантакт з нявесткай. Аднак усе мае сямейнікі аказаліся здаровымі, незаражанымі каранавірусам, але абавязаны былі прайсці каранцін у месцах свайго жыхарства. Добра, што працаўнікі санэпідэмстанцыі паінфармавалі мяне аб магчымасці заражэння каранавірусам і з дапамогай тэста пацвердзілі ў мяне інфекцыю. У іншым выпадку я несвядома магла б заразіць мужа і астатніх сямейнікаў. У мяне не было і надалей амаль няма ніякіх сімптомаў, якія маглі б сведчыць аб маім заражэнні каранавірусам. Тэмпература ў мяне толькі крыху перавышае 36 градусаў і такая цяпер утрымліваецца ўвесь час. Не было ў мяне ні насмарку, ні кашлю, не балелі ні галава, ні горла. Надалей добра адчуваю смак і добры ў мяне нюх, паколькі ў некаторых інфікаваных асоб выступаюць праблемы з адчуваннем смаку і нюху. Толькі ў нагах стала круціць у два разы мацней, чым круціла раней. Аднак я падумала, што можа гэта на змену надвор'я, паколькі ў мяне так пастаянна бывае, — стала расказваць жыхарка Бельска-Падляшскага пенсіённага ўзросту, якая пажадала захаваць ананімнасць. Распавяла таксама аб умовах, у якіх жыве, змагаецца з каранавірусам і аб дапамозе сямейнікаў, якія робяць пакупкі і рыхтуюць харчы. — Штодзень прыязджаюць паліцыянты пад наш дом, тэлефануюць мне, а я выходжу на зашклёную веранду і пацвярджаю, што я дома. Пытаюць мяне, ці не патрабую нейкай дапамогі, напрыклад, прапануюць зрабіць пакупкі, але такой неабходнасці ў мяне няма. У Бельску жывуць мае сямейнікі, якія робяць пакупкі мне і мужу. Мой муж здаровы, але і ён праходзіць каранцін. Зараз я дзень і ноч праводжу на другім паверсе дома, а мой муж на першым. Абагравае дом, варыць есці і размаўляем з большай адлегласці. Суседзі ў нас адказныя людзі і яны са зразуменнем успрынялі ўмовы, у якіх я апынулася з мужам, паколькі ж бачаць паліцыянтаў, якія да нас штодзень прыязджаюць, — сказала мая суразмоўца і рашылася перасцерагчы іншых перад заражэннем вірусам. — Мой выпадак паказвае, што можам спаткаць асобы, якія самі не ведаюць, што яны інфікаваны, і несвядома спрычыняцца да заражэння іншых асоб. Калі адбылося аблягчэнне ізаляцыі, больш асоб выйшла на вуліцы, але надалей трэба трымацца санітарнага рэжыму, які абавязвае цяпер.

Іншай маёй суразмоўцай была настаўніца з Бельска-Падляшскага.

— Калі ў Бельску тэсты пацвердзілі многа заражэнняў каранавірусам, жыхары горада сталі моцна апасацца за сваё здароўе і жыццё. Гэта было відаць у горадзе і я таксама трымаюся ўсіх санітарных указанняў. Цяпер хаджу з масачкай на твары, у рукавічках і трымаю адпаведную адлегласць ад іншых асоб. На першы дзень Вялікадня я сваткавала з бацькам, якому раней дапамагала падрыхтавацца да свята. На вёсцы бачыла, што людзі трымаліся ўказанняў аб ізаляцыі ад староннніх асоб. Калі я вярнулася ў Бельск і было ўжо дазволена выходзіць з дамоў дзеля рэкрэацыі, убачыла, што моладзь не перасцерагала санітарнага рэжыму і па тры-чатыры асобы ездзілі побач сябе на веласіпедах. Калі не будзем трымацца ізаляцыі і спатыкацца са староннімі асобамі, каранавірус можа надалей распаўсюджвацца, — сказала Юлія Міранчук, настаўніца з Бельска-Падляшскага.

Найцяжэй было жыць згодна з указаннямі ўрада ў кватэрах у блоках і ў аднаасобных дамах адзінокім старэйшым людзям. Многія старэйшыя жыхары Бельска-Падляшскага ў магазіны і аптэкі стараліся выходзіць толькі ў выпадках неабходнасці, калі не было магчымасці папрасіць зрабіць пакупкі малодшых сямейнікаў або суседзяў.

— Калі толькі ў краіне пачынала разгортвацца пандэмія, прыехалі да мяне на

чытайце ☞ 11

**Знакамітасці памежжа**

# Яго памочлівае слова... Уладзімір Гніламёдаў

Нарадзіўся ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна 26 снежня 1937 года ў сялянскай сям'і. „Я жыў у дзедавай хаце і застаўся там, з дзедам і бабаю, калі ад іх аддзяліліся мае бацькі. Дзед і баба — мае духоўныя бацькі, яны мяне выхоўвалі, і я ім за гэта бясконца ўдзячны. Усім, што маю, я абавязаны ім. Калі ўспамінаю іх, дык і слязу змахну — дужа нялёгкім і клопатным было іх жыццё".

Вучыўся Уладзімір Васільевіч у Кругельскай сярэдняй школе (1945-1955). Марыў стаць геолагам, але прага да літаратуры ўзяла верх і прывяла юнака ў Брэсцкі педінстытут (1955-1959). Пасля службы ў войску працаваў настаўнікам у Тамашоўцы і Камароўцы (Брэсцкі раён). Адтуль рушыў у сталіцу, дзе пачаў узыходжанне да вышынь навукі.

Сёння Уладзімір Гніламёдаў — аўтар шматлікіх манаграфій не толькі аб паэзіі і класіках беларускай літаратуры. Ёсць у яго работы, прысвечаныя вывучэнню самых складаных і актуальных праблем гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры. Ён заўсёды аператыўна рэагуе і на падзеі бягучага літаратурнага працэсу, здольны дзейсна ўплываць на яго развіццё. Вучоны заявіў аб сабе і як аўтар цікавых і пазнавальных раманаў, м.інш. „Уліс з Прускі", „Усход", „Вяртанне". А пачалося ўсё раптоўна: „Аднаго разу паехаў у сваю вёску Кругель — яшчэ жылі некаторыя старыя людзі, гляджу і думаю: хто раскажа пра тое, што адбывалася на вуліцы, у гэтых мясцінах? Чаго тут толькі ні было, якая тут толькі ўлада ні панавала... І мне ад пачуцця ўдзячнасці да сваіх продкаў, бабы і дзеда, бацькоў захацелася расказаць пра іх, пра тое, як яны жылі на гэтай старажытнай зямлі, працавалі, любілі, радаваліся і пакутавалі".

У аснову згаданых твораў пакладзены старонкі жыцця дзеда пісьменніка — Лявонція Міхайлавіча Сцепанюка (Лявона Кужаля). Вёска Кругель і яе жыхары, амерыканскі перыяд жыцця героя ў пошуках заробку, бежанства ў Расію, вяртанне. „Мае героі вярнуліся на Радзіму з новымі поглядамі, а Лявон — дык яшчэ і з маладой жонкаю. Праўда, ён узяў яе ўжо не дзяўчынай, а ўдавой; у Фёклы быў нават сынок, мой будучы бацька". Працуючы над творамі, пісьменнік імкнуўся забяспечыць найбольшую праўдзівасць адлюстравання рэчаіснасці, апісання падзей і сітуацый. З гэтай мэтай ён прачытаў шмат кніг беларускіх эмігрантаў, перапісваўся з імі, у прыватнасці, з Вітаўтам Кіпелем.

Спецыяльна ездзіў у Самару і Арэнбург (месцы знаходжання колішніх бежанцаў), працаваў у мясцовых архівах, гутарыў з жыхарамі. „Я не дазваляю сабе з героямі таго, чаго з імі не было на самай справе. Калі герой трапляе ў нейкую сітуацыю ў рэальным жыцці, — гэта вы абавязкова знойдзеце і ў маім творы".

Бясспрэчна, кнігі цікавыя, пазнавальныя, напісаныя цёпла, з любоўю, грэюць душу і выклікаюць толькі прыемныя ўражанні. Асобныя старонкі іх друкавала раённая газета „Навіны Камянеччыны". Чытачам было цікава пазнаёміцца з гісторыяй жыцця сваіх продкаў, з мінулым малой радзімы.

„Цікавяцца маёй працай у Брэсце — выкладчыкі і студэнты ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, краязнаўцы, ездзяць у Кругель, глядзяць тую хату, у якой я нарадзіўся, званяць мне. Мяне гэта радуе".

Радуе і нас, землякоў, што побач — малая радзіма таленавітага чалавека, мудрага жыццялюба і глыбокага філосафа.

Прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук, пісьменнік, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў поўны творчых планаў і новых задумак.

Узгадваючы свой працоўны шлях, ён з сумам адзначае: „У першай палове 70-х гадоў я працаваў у ЦК КПБ, і было мне там часам вельмі нялёгка. Разам з тым я не мог, як у звычайнай установе, звольніцца і перайсці ў іншае месца. Работнік ЦК, партыйная наменклатура, абавязаны выконваць распараджэнні партыйнага кіраўніцтва. Сёння ты з'яўляешся дырэктарам лазні, а заўтра цябе могуць прызначыць дырэктарам тэатра". Распавядаючы ж пра сваё становішча ў ролі крытыка, Уладзімір Васільевіч не праміне паскардзіцца: „пісьменнікі нас, крытыкаў, не вельмі шануюць. Калі яшчэ хваліш яго, дык нічога, і то хвалі яго, а другога не, а калі робіш нейкія, нават бяскрыўдныя, заўвагі...".

У свае рэдкія сустрэчы з Уладзімірам Васільевічам люблю слухаць яго разважанні не толькі аб сучаснай літаратуры, але і аб жыцці і людзях.

„Я добра памятаю тых людзей, якія ў розныя часы падтрымалі мяне і маральна, парадамі, і практычна. Найперш хачу назваць Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Ён не толькі выдатна выкладаў літаратуру, але і быў здольны на блізкую, шчырую, адкрытую гутарку".

„Пісьменнік і чытач — з'явы тыпалагічна суадносныя. Хочацца верыць, што некаму будзе цікава тое, як я думаю, гляджу на свет, можа, нехта ацэніць маю творчую манеру і ў цэлым працу. Але, канечне, як і кожны пісьменнік, адчуваю сябе адзінокім".

„Сёння людзей чым-небудзь здзівіць цяжка. А калі і здзівіш каго, дык толькі сёння да абеду, а пасля ён забудзецца пра сваё здзіўленне".

„(...) цешу сябе тым, што па-ранейшаму неабыякавы да жыцця, імкнуся выявіць яго смак, перанесці на паперу колеры і барвы навакольнага свету".

Вось такі ён — Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў — сентыментальны і вельмі праўдзівы.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

# http://hodna.by

Адным з недахопаў беларусаў з'яўляецца недахоп годнасці. У Беларусі пра яго асабліва гучна казалі падчас гарбачоўскай перабудовы тыя, хто імкнуўся да таго, каб краіна стала дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай з панаваннем беларускай мовы, а большасць народа гэтага чамусьці не хацела. Менавіта ў выніку адсутнасці той самай годнасці, нежаданне „людзьмі звацца" ўлада ў Беларусі перайшла таму, хто не проста абыякава ставіўся да беларускай мовы, культуры і гісторыі, але і ўсе свае гады кіравання праяўляе варожасць да правоў суграмадзян.

Аднак не ўсе беларусы лічаць сябе не годнымі, хоць сталая хлусня і запужванні ад тых, хто мае ўладу, робяць сваю справу. Адным з прыкладаў таго, што разуменне неабходнасці быць годным правоў і свабод не зусім знікла са свядомасці жыхароў беларускай краіны можна назваць грамадскую кампанію „Годна", сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://hodna.by**.

„Грамадская кампанія «Годна» — гэта новая ініцыятыва Каманды БНР100, якая ладзіла БНР100, «Свята Незалежнасці», «Мова фэст», «Годны Дзень Волі» ды іншыя гучныя акцыі і мерапрыемствы. Кампанія прысвечана вывучэнню, развіццю і далейшаму фармаванню беларускай нацыянальнай свядомасці. І пачалася з праекта «Трымайся годна», які будзе дапамагаць беларускаму грамадству ва ўмовах пандэміі каранавіруса адаптоўвацца, аб'ядноўвацца і самаарганізоўвацца для вырашэння агульных праблем", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. З гэтага бачна, што грамадскія актывісты імкнуцца адказваць на выклікі часу, у прыватнасці, пандэміі каранавіруса.

З пададзенай на сайце інфармацыі цікаўнасць выклікае ацэнка грамадскімі актывістамі самасвядомасці беларусаў як нацыі. „Сучасную беларускую нацыю ствараюць не проста беларусы, а годныя беларусы, дынамічныя людзі, якія адчуваюць выклікі новага свету, валодаюць сучаснымі сродкамі камунікацыі, упэўнена глядзяць у будучыню і пры гэтым стаяць на грунце беларускіх каштоўнасцяў, здольныя аб'яднаць вакол іх беларускае грамадства", — вераць актывісты „Годна". Пры гэтым яны адзначаюць, што кампанія „Трымайся годна", якая аб'ядноўвае нацыю ў барацьбе з аднолькавай для ўсіх — незалежна ад палітычных, гістарычных, культурных поглядаў — вонкавай пагрозай, зараз становіцца найбольш актуальнай. „А задачы яднання нацыі, захавання незалежнасці і ўмацавання здольнасці грамадства самастойна супрацьстаяць знешнім і ўнутраным пагрозам выходзяць на першы план", — адзначаецца там.

Што ж прапануюць актывісты кампаніі ў дачыненні да пандэміі Covid19, рэалізуючы „каранавірусны" праект, скіраваны на адаптацыю беларускага грамадства да ўмоў пандэміі новай заразы? „У Беларусі склаліся крытычныя ўмовы ў сувязі з сусветнай пандэміяй каранавіруса: інтэрнэт завалены фэйкамі пра спосабы барацьбы і самалячэння, улады Беларусі па-ранейшаму хаваюць усю праўду і сваімі словамі ды дзеяннямі толькі павялічваюць паніку і недавер да сябе. Што застаецца беларусам у гэтай сітуацыі? Толькі самаарганізацыя, самаадукацыя і салідарнасць", — даецца адказ на галоўнай старонцы „Годна".

**Аляксандр ЯКІМЮК**



**Дата з календара**

# 435 гадоў з дня нараджэння Соф'і Слуцкай

Княгіня з роду Алелькавічаў, рэлігійная праваслаўная дзеячка, беларуская святая Соф'я Слуцкая нарадзілася 1 траўня 1585 г. у Слуцку. Была дачкой слуцкага князя Юрыя III і Барбары з роду Кішкаў. Апошняя прадстаўніца княжацкага роду Алелькавічаў. Верагодна, выхоўвалася ў дзяцінстве ў праваслаўі. У ранні веку страціла бацьку, неўзабаве памерла і маці.

Пасля смерці дзядзькоў Аляксандра (1591) і Яна Сымона (1592) да Соф'і адышло ўсё Слуцкае княства са Слуцкам і Капылём, мястэчкамі Раманава, Старобін, Любань, Пясочнае, 32 фальваркі. Сіратой апекаваліся сваякі Хадкевічы: староста жамойцкі Юры, пасля ягонай смерці — кашталян віленскі і берасцейскі староста Геранім. Яны запазычылі князям Радзівілам значныя грашовыя сумы і хацелі выплаціць даўгі пасагам Соф'і, якую пасваталі за нясвіжскага князя Януша Радзівіла, сына ваяводы віленскага Крыштапа. Напярэдадні вяселля абвастрыліся фінансавыя спрэчкі двух кланаў, і Хадкевічы скасавалі заручыны. Аднак Радзівілы рашуча абвясцілі, што не жадаюць адмаўляцца ад нявесты і падалі на Хадкевічаў у суд. Вырак суду на карысць Радзівілаў ударыў па гонары апекуна Соф'і. Дзень вяселля прызначылі на 1 кастрычніка 1600 года, на свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Хоць жаніх вызнаваў каталіцызм, Соф'я заставалася праваслаўнай. Як адступное Хадкевічы атрымалі 360 080 злотых, 500 валок зямлі і скасаванне доўгу.

20 ліпеня 1600 г. Януш Радзівіл звярнуўся да папы рымскага Клімента VIII з прашэннем аб дазволе на шлюб. 1 кастрычніка ў праваслаўным саборы ў Брэсце адбылося вянчанне паводле праваслаўнага абраду. У выніку наступных рознагалоссяў з папскім прастолам муж перайшоў у кальвінізм. У 1604 г. неўзабаве пасля родаў памёр нованароджаны сын Мікалай, а ў 1608 г. — дачка Кацярына.

Соф'я Слуцкая шмат увагі надавала дабрачынным справам, падтрымлівала праваслаўныя цэрквы і манастыры ў Слуцкім княстве. Ахвяравала сродкі для пабудовы лякарняў для бедных, арганізавала паломніцтвы. Дамаглася ад мужа атрымання ў вялікага князя Жыгімонта Вазы граматы, паводле якой у Слуцкім княстве забаранялася прымушаць праваслаўных хрысціян да пераходу ў склад Уніяцкай царквы. Брала ўдзел як праваслаўная братчыца ў Слуцкім Змяненскім брацтве.

Памерла Соф'я Слуцкая 19 сакавіка 1612 г., нарадзіўшы дачку, якая таксама памерла ў той самы дзень. Княгіню пахавалі ў Свята-Троіцкім манастыры ў Слуцку. Да цынкавай грабніцы прымацавалі герб слуцкіх князёў Алелькавічаў. На вонкавым баку грабніцы змясцілі надпіс літымі літарамі. Паэт Саламон Рысінскі, які працаваў пісарам пры мужу, прысвяціў ёй пасмяротную эпітафію. Да 1904 г. мошчы захоўваліся пад алтаром Спаскай царквы ў Слуцку, адкуль грабніцу перанеслі ў зімовую капліцу манастыра. У 1912 г. мошчы змясцілі пад правым клірасам Свята-Троіцкага сабора. 21 лютага 1930 г. раку грабніцы адчыніла дзяржаўная камісія ў прысутнасці настаяцеля сабора епіскапа слуцкага БАПЦ Мікалая (Шамяцілы). У пратаколе з прыкладаннем заключэння і фотаздымкаў адзначалася нятленне мошчаў пры адсутнасці адмысловага бальзамавання цела. Мошчы даставілі ў музей Беларускага медычнага інстытута ў Мінску адкуль у 1941 годзе перанеслі ў кафедральны сабор Сыходу Святога Духа ў Мінску, дзе яны захоўваюцца дагэтуль.

Кананізавалі княгіню ў 1984 г. У 2000 г. да юбілею хрысціянства ў Слуцку ўсталяваны помнік Соф'і Слуцкай. У 2009 г. у Мінску ў яе гонар асвяцілі новую царкву.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

4 ☞ працяг

жыхарства дзве дачкі з дзяцьмі з Варшавы і Гданьска. Я рада цяпер, што жыву ў сваім доме і магу дапамагаць займацца ўнукамі, а мае дочкі робяць мне пакупкі. Магу займацца ў агародзе і адпачываць на свежым паветры, стараюся не выходзіць па-за панадворак. Апасаюся, што паслабленне санітарнага рэжыму можа спрычыніцца да распаўсюджання каранавіруса ў нашым горадзе і па Польшчы. Трэба быць асабліва асцярожным падчас пакупак у аптэцы, магазінах і пабываўшы ў іншых закрытых месцах, дзе каранавірус можа распаўсюджвацца ад інфікаваных асоб. Каб гэтага пазбегнуць былі ўведзены маскі. Яны забяспечваюць перш за ўсё, каб хворыя не заражалі іншых. Каб лепш забяспечыць здаровых перад хворымі, патрэбны маскі з адпаведнымі фільтрамі, якія намнога даражэйшыя ад звычайных. Хацеўшы пазбегнуць заражэння каранавірусам найлепш менш выходзіць з дому. Спачуваю людзям, якія жывуць у блоках, як мая швагерка ў Беластоку, якая апасаецца выходзіць і на балкон, — расказала былая медсястра, а зараз пенсіянерка Надзея Федаровіч з Бельска-Падляшскага.

Дырэктар Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Бельску-Падляшскім Бажэна Гратовіч паінфармавала, што амаль увесь калектыў бельскага шпіталя быў спраўджаны на наяўнасць каранавіруса. У каля 25 працаўнікоў шпіталя тэсты пацвердзілі наяўнасць каранавіруса і такая наяўнасць была пацверджана сярод пацыентаў шпіталя. Былі закрыты хірургічнае, артапедычнае і рэабілітацыйнае аддзяленні. У апошнім аддзяленні наяўнасць каранавіруса была выяўлена толькі ў пацыентаў. Пасля перапынку пачалі дзейнічаць хірургічнае і артапедычнае аддзяленні, падрыхтаванае было да адкрыцця рэабілітацыйнае аддзяленне. Шпіталю ў Бельску-Падляшскім у новых умовах дапамагаюць шматлікія ахвяравальнікі, суполкі, а жанчыны шыюць маскі. З другога дня Вялікадня, ад 20 красавіка, уведзена было паслабленне ізаляцыі ва ўсёй краіне — дазваляецца ўжо выходзіць на адпачынак у паркі, лес і на прагулкі па вясковых і гарадскіх дарогах, захоўваючы ранейшыя патрабаванні. Паявілася магчымасць маліцца ў касцёлах і цэрквах вернікам да колькасці аднаго чалавека на 15 квадратных метраў храма ў адным часе. У магазінах цяпер таксама можа больш асоб рабіць пакупкі ў той самы час. Аднак каранавірус можа распаўсюджвацца яшчэ год, паўтара або і больш часу.

Напярэдадні правадной нядзелі, у апошнім паведамленні перад высылкай артыкула ў рэдакцыю прачытаў я сумную інфармацыю пра 11 новых заражаных каранавірусам асоб у Падляшскім ваяводстве, з якіх дзевяць былі жыхарамі Бельскага павета. Сярод заражаных з Бельшчыны пяць жанчын заставалася ў хатняй ізаляцыі, а чатырох старэйшых мужчын былі шпіталізаваны ў бельскай бальніцы. У Падляшскім ваяводстве выздаравелі 15 чалавек, у тым ліку чатыры асобы з Бельскага павета. Падумалася мне, што можа сярод іх ёсць жанчына, з якой я размаўляў, пакольki ад яе заражэння мінула ўжо звыш двух тыдняў.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Шукаю новых чытачоў „Нівы”

Увесь час беларускі штотыднёвік „Ніва” выходзіць рэгулярна і яго чытаюць. Зараз у час эпідэміі каранавіруса крыху цяжэй з яго распаўсюджваннем. У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета мне ў гэтым выдатна дапамагае лістаноша Юрка Дрозд (ён жыве ў Нараўцы). Ужо шмат гадоў ён таксама верны чытач „Нівы”. Мой брат Кастусь часам падвязе ў тую ці іншую вёску Нараўшчыны. А так то еду на ровары або іду пехатой. У нас слаба развітая аўтобусная камунікацыя ды дарогі патрабуюць рамонту.

Цяпер у мяне найбольш чытачоў у Новым Ляўкове (16), а ў Старым Ляўкове і Плянце (па трох) ды ў Лешуках, Нараўцы, Новінах і Міклашэве (па адным). Бяру „Ніву” перш-наперш на пошце ў Нараўцы. 16 красавіка гэтага года прыслалі мне шэсць экземпляраў роднага часопіса № 15 і 16 з рэдакцыі „Нівы”, за што сардэчна дзякую. Такім чынам цікавыя ніўскія артыкулы, рэпартажы, фотарэпартажы, фельетоны, допісы і гараскоп прачыталі больш асоб. Некаторыя чытачы рашалі адгаданкі.

23 красавіка гэтага года лістаноша прывёз мне з пошты восем экземпляраў „Нівы” № 17 ад 26 красавіка г.г. Ён абяцаў, што 4 або 5 экземпляраў яшчэ прывязе з пошты ў Гайнаўцы або з нараўчанскіх прадуктовых крамаў ГС і „Аргелян”. Я буду шукаць новых чытачоў „Нівы”, між іншым, у Альхоўцы, Ахрымах, Новінах, Падляўкове і Семяноўцы. **(яц)**

## Непрыгодны аўтамабіль у лесе

20 красавіка гэтага года ехаў я лесам, які назвалі Плянтай і які знаходзіцца непадалёк ад вёскі Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны. Еду я, еду і разглядаюся. Лес як лес, а вось і неспадзеўка. Нехта пакінуў тут, па ўсім відаць, непрыгодную аўтамашыну чорнага колеру. Яна часткова разбурана, развінчана, без колаў. Пры легкавушцы не ўдалося мне знайсці рэгістрацыйных нумароў, ні дакументаў.

Лес гэта не склад металому! Але чаго некаторыя людзі не зробяць. Што непрыгоднае, то вязуць і пакідаюць у лесе. Так як гэтую іншамарку. Лясным звяркам яна непатрэбная. Не будуць катацца дый зараз яна без колаў, руля, сядзенняў і адных дзвярэй Лясным птушкам лепш бы прывезлі шпакоўню або іншы домік.

❖Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

**СПАЧУВАННІ**

Шчырыя словы спачування **Юрку Хмялеўскаму** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага гора – смерці маці Яўгеніі.

**рэдакцыя Нівы**

## Адгаданка

**1.** перпендыкулярная даўжыні, **2.** начное свяціла, **3.** вялікая сібірская рака, **4.** не брыецца пад носам, **5.** птушыны хуткі спеў, **6.** аптычная нерэальная відзеж у пустыні, **7.** партнёр жанчыны, **8.** левы прыток Дняпра, **9.** маскоўскі манарх, **10.** Манблан або Джамалунгма, **11.** лагічнае палажэнне, якое патрабуе доказу, **12.** прылада касца, **13.** пузырыстая маса на вадкасці, **14.** тоўстая дошка, **15.** адходы пасля абмалоту, **16.** у акведукце, **17.** важны павятовы чыноўнік, **18.** тоўстая вяроўка, **19.** бацька ўнука, але не зяць, **20.** прылада для сячэння з лязом і абухом.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | 2 | 3 | | | | | 4 | | | | | |
| | 5 | | | | | | | | | | | | | | | 6 | 7 | |
| 8 | | | | | | | | 9 | | 10 | | 11 | | 12 | | | | |
| | | 13 | | | 14 | | | | | 15 | | | | 16 | | | | |
| | 17 | | | | | | | 18 | 19 | | | | | | | 20 | | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Ружаны, урач, Вена, таз, розум, печ, млын, балерына, жыд, павет, яр, цень, зебра, лоб, пі, абразанне, караед, ліса.

Рашэнне: **Жанчына без мужчыны падобная рыбе без веласіпеда**.

## 03.05 — 09.05

**(22.03. — 20.04.)** Стабільны месяц, без больншых сюрпрызаў. Будзеш спакойны і задаволены. Знаёмствы з новымі людзьмі. Будзеш папулярны і любімы. У пачуццях цёпленька. На працы не адкладвай важных спраў, не праваронь важных інфармацый. Добры час, каб зарабіць грошы (дзве першыя дэкады мая). Энергія і аптымізм.

**(21.04. — 21.05.)** Вельмі працавіты май, з відам на большыя заробкі і павышэнне. Энергія і добрыя задумы, дзякуючы якім здзейсніш свае мары. Магчымыя канфлікты ў сям'і, асабліва ў парах са стажам, а таксама на рабоце. Добрыя задумы як здабыць большыя грошы. Хаця 3-5.05. не выдавай зашмат. Каля партнёра можа пачаць круціцца хтосьці несумленны (8-10.05. яго рассакрэціш). Са здароўем не найлепш, бо не слухаешся дактароў; 6-8.05. можа азвацца старая нямогласць.

**(22.05. — 22.06.)** Не пазбегнеш перашкод, спешкі, хаосу. Але дасі рады, дзякуючы немалой падтрымцы зычлівых людзей. З 2 мая прыліў творчага натхнення. 3-5.05. можаш даведацца чагосьці, аб чым ты не хацеў бы хіба ведаць. Не найлепшая форма. Ты найахвотней засеў бы ціхачом у хаце. На працы падгоніш «хвасты». Пі гарбаткі з зёлак.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш сантыментальны і крыху раздражнены. Старайся лагодзіць канфлікты і не ствараӣ сабе праблем. З 2.05. высветліш сумненні і вырашыш трапна. Не будзь такі настальгічны ў пачуццях. Дома мілая цеплыня. На працы няхай цябе заўважаць. З 8.05. трэба будзе вырашыць — уваходзіць у тое штосьці, ці не. Мусіш быць адданым і працавітым, а на канец мая ўбачыш, што было варта. 3-5.05. запануй над адлівам грошай. Са здароўем у парадку.

**(24.07. — 23.08.)** Большасць праблем цябе абміне. Але не абміне добрая забава. Сябры пра цябе не забудуць. З 2.05. можа заляцець табе ў галаву выдатная задума, як здабыць грошы. Знойдзеш час на тое, што любіш. Але 6-8.05. можаш штосьці ляпнуць у кампаніі. Паставіш на сваім. Будзеш сваткай. Форма сярэдняя.

**(24.08. — 23.09.)** Над усім будзеш мець кантроль. 3-5.05. добра расплануй абавязкі і ўсё зашпілі на апошні гузік. 6-8.05. поўнасцю можаш даверыць інтуіцыі. Падтрымаюць цябе зоркі і дадуць канкрэтныя карысці. У пачуццях лёгкая сумятня. Стрымай свой язык сярод радні і сяброў. На працы не бойся выклікаў. Спатрэбяцца новыя ўмеласці. Рашэнні з 2-3.05. вызначаць трэнды на ўвесь месяц. Дзевы з III дэкады выйграюць усе першыя ўзнагароды. Але адпачывай і рабі тое, што любіш.

**(24.09. — 23.10.)** З поспехам выкарыстаеш свае таленты і ўмеласці. Здабудзеш тое, аб чым здаўна марыў. Але 6-8.05. можа памуціцца твой спакой і прынесці праблемы са сном. Не аддавай сябе так у каханні, для сям'і. Хай розум і сэрца гавораць адным голасам! Будзеш найлепшым слухачом і сябрам. Не забывайся есці сняданак!

**(24.10. — 22.11.)** Утрыманне на хвалі не будзе лёгкім і будзе шмат табе каштаваць. Пільнуйся! Дасягнеш сваіх мэт. 3-5.05. могуць цябе не так зразумець. 8-10.05. удасца табе вырашыць цяжкую загадку або сур'ёзную праблему. Можаш быць цынічны і куслівы, адкажуць табе такой самой манетай. На рабоце разграміш канкурэнцыю. Будзеш баявіты, усё перапіхнеш і здабудзеш уплывы; але толькі ў першай палове мая. Забаляць табе з-за стрэсу карак, галава і жывот. Лячыся зёлкамі. А да поўні шчасця — купі новую парфуму!

**(23.11. — 22.12.)** Замяшанне на працы абернецца ў тваю карысць. Не будзь халодным. Пасталееш і пакінеш сваё бестурботнае стаўленне да жыцця. Сінглы павінны пільнавацца 3-5.05., каб не ўпасці ў рукі здавалася б «ідэалу». Дома больш хай будзе зразумення. У фірме паявяцца крызісы; зможаш ўратаваць увесь калектыў! Калі хочаш займець сваю фірму, добра перадумай. Агулам, у маі да цябе ўсміхнецца шчасце.

**(23.12. — 20.01.)** Праекты прынясуць эфекты. Папулярнасць вырасце, а каса запоўніць рахунак. Будуць шматлікія шанцы ў маі. У пачуццях будуй гняздзечка. У прафесіі час належыць табе! Да людзей выходзь з калектывам. Крыху будзе нізкаваты ціск крыві. Не ідзі цяпер да зубнога ўрача.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш дзейнічаць адзін. Знойдзеш новае поле для актыўнасці. Але тваё сэрца ніхто не здабудзе! З 2.05. знойдзеш нетыповы спосаб, каб вельмі добра зарабіць. Але 3-5.05. пільнуйся ад ліслівцаў і скрытных ворагаў. Сонца загоніць цябе да цяжкай працы. Цані сябе, не рабі нічога дарма. Будзеш разумны, спакойны, памяркоўны. Знакамітая форма. Грошы ў маі паплывуць да цябе шырокім струменем.

**(20.02. — 21.03.)** Жыццё цікавейшае, поўнае выклікаў і прыгод. Праца прынясе лепшыя грошы, а любоў — задавальненне. 6-8.05. пераканаешся, хто да цябе непрыхільны. З аптымізмам глянеш на свет. Часовыя праблемы з партнёрам. 6-8.05. можаш зрабіць крок да таго, аб кім марыш. Не спрачайся! Пара больш удзельнічаць у жыцці фірмы. 6-8.05. прыстасуешся да ўсіх умоў. З 8 (да 12.05.) зробіш штосьці, чым будзеш ганарыцца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Крыху і пра Амерыку




Змаганне з пошасцямі вядзецца бадай ад пачатку іх з'яўлення. Як здаўна — дакладна невядома, бо ж калісь не было летапісцаў, ці нават не былі распрацаваны алфавіты для запісу хронік ці іншай інфармацыі. Пра некаторыя найдаўнейшыя меры змагання з пошасцямі даведваемся з Біблії, якая з'яўляецца важным дакументам наконт старажытнага побыту на Блізкім Усходзе. Праўда, не ўсё, што там напісана пра тадышнія хваробы, сёння ўдаецца адназначна тлумачыць, аднак у агульнасці шматлікія высновы можна з гэтай, найбольш хіба вядомай, кнігі вынесці.

У Пісанні часта згадваецца пра праказу, ёсць мова пра ізаляванне хворых, пра аздараўленне. Аднак у той час аздараўлення з праказы не было і, мабыць, праказай называлася тадышнімі аўтарамі кожная скурная хвароба. У трынаццатым раздзеле Трэцяй кнігі Майсеевай „Левіт" апісаны тадышнія меры ў адносінах да хворага — у залежнасці ад выгляду скуры ён прызнаваўся чыстым або нячыстым, ён ізаляваўся, або і не. Таксама вопратка або элементы жылля спальваліся або ачышчаліся для далейшага карыстання. У глыбейшыя тканкі чалавечага цела тадышнія лекары не пранікалі. Аднак заразнасць хвароб усведамлялі.

Заразнасць хвароб усведамлялі людзі і ў эпоху Сярэднявечча. Калі ў палове XIV стагоддзя ўспыхнула ў Еўропе эпідэмія чумы, шмат якія гарады ды іншыя тэрытарыяльныя адзінкі былі цалкам закрыты для перамяшчэння людзей. Вынікам быў занік гандлёвага абмену і застой гаспадарчай дзейнасці. У 1377 годзе ўлады Дуброўніка, які тады быў пад італьянскім панаваннем і называўся Рагузай, і яго быт моцна залежаў ад эканамічнага абмену з вонкавым светам, вырашылі інакш абыходзіцца з праступамі эпідэміі. Калі ў дуброўніцкі порт прыбывалі караблі з ахопленых эпідэміяй старон, іх не ўпускалі ў порт, толькі месяц, трыццаць дзён, трымалі пры скалістай выспе перад горадам. Выспа па-італьянску — *isola*, і ад гэтага слова прынялося іншае — ізаляванне. Калі цягам месяца на караблі не паяўляліся сімптомы хвароб, тады караблю дазвалялася заходзіць у порт і разгружаць прывезены тавар. У іншых міжземнаморскіх партах, у Марселе, Пізе, Генуі ці Венецыі, таксама сталі прымяняць такія засцерагальныя адтэрміноўкі, але яны там трывалі даўжэй — сорак дзён; магчыма па аналогіі з біблейскімі тэрмінамі Майсеевага ці Ісусавага адасаблення. Сорак дзён па-італьянску — *quarantina di giorni*, і ад гэтага слова прынялося іншае — каранцін.

З ходам часу засцерагальныя мерапрыемствы сістэматызаваліся. У Дуброўніку ў 1397 годзе была зладжана спецыяльная ўстанова ў манастырскім комплексе на выспе, дзе прабывалі знаходзіліся ў час каранціну. Установу назвалі пазней лазарэтам, ад венецыянскага манастыра святога Лазара, дзе манахі апекаваліся хворымі праказай. Пазней за прыкладам Дуброўніка пайшлі іншыя гарады Адрыятыкі. Паколькі прабыванне здаровых з хворымі стварала першым смяротную небяспеку, з часам у венецыянскім комплексе сталі раздзяляць хворых паводле іхніх хвароб. Трымалі іх пад стражай, як у астрозе; за выхад навонкі свайго аддзялення пагражала там смяротнае пакаранне. Але і такія суровыя меры не засцерагалі ад распаўсюду пошасці. Заўсёды знаходзіліся камерсанты гатовыя падкупіць ахоўнікаў, абы толькі выйсці навонкі, каб прадаць свой тавар; такое здарылася ў Марселе ў 1720 годзе.

25 мая 1720 года ў Марсель зайшоў карабель „Вялікі святы Антон" з грузам шоўку і бавоўны з Леванта. У Марселі, з часу ранейшай эпідэміі ў 1580 годзе, прымаліся ахоўныя меры па засцераганні ад прыносу пошасці звонку. Выходзячыя ў марсельскі порт караблі з замежжа атрымлівалі ад французскіх консулаў пасведчанні трох відаў: „чысты" — калі ў рэгіёне, які пакідала судна, не было падазрэння пошасці, „падазроны" — калі ў пакіданым рэгіёне падазравалася магчымасць пошасці і „небяспечны" — калі ў рэгіёне была зараза. Консулы ў Ліване далі названаму караблю пасведчанні аб чыстаце, хаця ў той час у недалёкім Дамаску лютавала ўжо чума і груз мог быць заражаны. У час рэйсу на судне паміралі так пасажыры, як і члены экіпажа. Карабель хацеў зайсці ў Ліворна, але яму туды не дазволілі. У Марсель таксама не пусцілі, але дазволілі разгрузіць прывезены тавар у шпітальных памяшканні. Сталі паміраць грузчыкі, якія пераносілі той шоўк і бавоўну, іх хавалі і вопратку спальвалі. У міжчасе складзены ў шпіталях заражаны тавар кантрабандысты перанеслі далей; тавар быў каштоўны, бо меў адпраўляцца ў Новы Свет і даць уласнікам прыстойны прыбытак, а ўласнікі, верагодна, таксама паклапаціліся, каб іхні тавар не прапаў. У выніку ў Марселі ад чумы памерла каля паловы дзевяностатысячнага насельніцтва, таксама дзясяткі тысяч і ў навакольных мясцовасцях Праванса. Лік насельніцтва Марселя з 1720 года быў адноўлены пасля сарака пяці гадоў...

Адзесяць гадоў раней у Гамбургу ўспыхнула чума і ізаляваныя ў заражаным квартале людзі, не могучы вытрываць голаду, прабіраліся навонкі зоны, разносячы заразныя мікробы; у горадзе памерла тады каля адзінаццаці тысяч чалавек — сядміна ўсяго насельніцтва горада. Чарговыя чума ўспыхнула ў Гамбургу ў 1892 годзе. Улады горада лічылі, што было гэта звязана з узбуйненай эміграцыяй яўрэяў з Расіі ў Амерыку. У той час і самыя ўмовы жыцця ў Гамбургу, асабліва ў яго найбяднейшых кварталах, былі вельмі цяжкія. Туды падсялілі шмат людзей, якіх выселілі з тэрыторыі прызначанай для разбудовы порта. Забор вады ў водаправоды адбываўся недалёка порта, дзе скідаліся партовыя нечыстоты. У водаправоды траплялі нават рыбы, вугры.

Галоўныя вуліцы Гамбурга былі вымашчаны ўжо ў XVII стагоддзі. Жыхары горада выкідалі нечыстоты на масты, адкуль каманды вязняў вывозілі за горад, за абсяг нюху; навакольныя землляробы атрымлівалі такім чынам угнаенні. А пасля вуліцы запаўняліся чарговымі нечыстотамі... Славуты нямецкі бактэрыёлаг Роберт Кох, які на тую бяду 1892 года прыбыў у Гамбург, прызнаўся: „Я тут забываю, што я ў Еўропе. Я ніколі не зведаў такіх нездаровых халупін, расаднікаў чумы". Акурат тады ў Гамбургу стаяла жара, узровень вады ў Эльбе быў надта нізкі. Наступ эпідэміі пачаўся ў палове жніўня 1892 года і доўжыўся да лютага наступнага года; памерла больш васьмі з паловай тысяч хворых...

Прычынай жыдоўскага бежанства з Расіі была хваля пагромаў, якая пракацілася па некаторых губернях імперыі ў 1880-х гадах. У 1891 годзе ўлады Масквы значна абмежавалі правы пражывання яўрэяў у горадзе і праследавалі тых, якія не ўспелі ў пару яго пакінуць — або выпіхаючы іх на вакзалы, або заключаючы ў турмы. Некаторыя дзеля ўхілення ад турмы начавалі на могілках у мароз; не дзіва, што некаторыя эмігранты маглі везці з сабою хваробы. З 1889 па 1891 год з Масквы выбыла больш пятнаццаці тысяч яўрэйскіх выгнаннікаў. Гамбург быў бадай найбольш значным адпраўным портам для яўрэйскай эміграцыі ў Амерыку. У 1889 годзе цераз Гамбург выехала ў Амерыку каля дваццаці пяці тысяч яўрэяў, а ў 1892 годзе амаль пяцьдзясят пяць тысяч; значыць па некалькі сотак у суткі. Няцяжка ўявіць, якая тады была таўкатня ў тамашнім пасажырскім порце...

Пра Маскву. Пры канцы 1770 года паявілася чума ў Маскве; мяркуецца, што прывезлі яе камерсанты з басейна Міжземнага мора. Улады горада прынялі строгія прэвентыўныя меры — прымусовы каранцін, нішчэнне заражанай маёмасці без кампенсацыі, закрыццё публічных лазняў — гэта выклікала трывогу і гнеў насельніцтва. Была паралізавана гарадская эканоміка ў выніку спынення дзейнасці мануфактур, базараў, складоў. У выніку скараціліся пастаўкі харчовых прадуктаў, бяднейшым людзям заглянуў у вочы голад, расло незадавальненне. Спроба маскоўскага архірэя Амвросія ў рамках прэвентыўных мер спыніць гараджан перад масавым пакланеннем адной з ікон, якое паводле павер'яў мела спыніць мор, выклікала рэзкі бунт. У палове верасня 1770 года гараджане ўварваліся на Крэмль у архірэйскі манастыр, забіваючы Амвросія. Іншы тлум рушыў па горадзе рабаваць маёмасць, што была пад каранцінам ды нападаць на бальніцы. Войска пагасіла бунт, у схватках загінула каля соткі бунтароў. Наступ чумы аслаб з пахаладаннем, але вясной 1771 года наступіў яе буйны рэцыдыў, пік выпаў на лета, у суткі паміралі тысячы. Мяркуецца, што ў Маскве і наваколлі памерла тады каля двухсот тысяч людзей...

У палове 1660- х гадоў чума завітала ў Лондан, прывезеная цераз Нідэрланды разам з бавоўнай з Блізкага Усходу. У горадзе памерла тады ад яе пад сто тысяч насельніцтва. У 1680 годзе мор заатакаваў Вену; памерла пад восемдзесят тысяч чалавек. Ад апошняй падзеі пайшла легенда пра вулічнага музыку Аўгусціна, які ноччу, пад здаровым хмяльком, упаў у яму з трупамі. І не захварэў, нічога яму дрэннага не сталася. Пайшло тады меркаванне, што гэта алкаголь выбавіў яго ад моравай смерці...

Людзі шукалі розных лякарстваў ад чумы. Мяркуецца, што чорная смерць паловы XIV стагоддзя прычынілася да адкрыцця Амерыкі. Настала перакананне, што жаванне гваздзік з'яўляецца панацэяй ад усіх хвароб. Гваздзікавае дрэва расце на Малайскіх выспах і гваздзікі завозіліся ў Еўропу блізкаўсходнімі купцамі. Еўрапейцы сталі самі шукаць марскую дарогу ў тыя рэгіёны свету, дзе расці экзатычныя спецыі. Спачатку акружалі яны Афрыку, а пасля надумалі знайсці шлях па супрацьлеглым напрамку. І выпадкова Калумб даплыў да новага кантынента. Фердынанд Магелан і паплыў у сваё кругасветнае плаванне спадзяючыся знайсці іншую трасу да Малайскіх астравоў. Магелан у ходзе падарожжа загінуў, але яго спадарожнікі прывезлі столькі спецый, што іх выручка ўдвая вярнула расходы на першае кругасветнае плаванне...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960